ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 35 (2437) 14 верасня 1995 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## СВЯТА БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ



Займеўшы сваё нацыянальнае свята -- Дзень беларускага пісьменства і друку, мы пачалі напаўняць яго новым зместам, куды багацейшым, чым у колішняга Дня савецкага друку. Адметнасцю сёлетняга свята, якое прайшло 3 верасня, было тое, што цэнтрам яго стала не сталіца, а старажытны Тураў. У Мінску толькі адбыўся фесты-валь прэсы, у якім прынялі ўдзел далёка не ўсе выданні. Панараму Дня пісьменства аздобіла навукова-творчая экспедыцыя "Шлях да святыняў".

**НА ЗДЫМКУ:** экспедыцыя рушыла ў дарогу.

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 3-й стар.).*

## ДЫЯЛОГІ З ЛІДЭРАМІ ПАРТЫЙ

### Сямён ШАРЭЦКІ:

# "А КАЛІ Я НІ ДА КОГА?.."

**Мы працягваем знаёміць нашых чытачоў з палітычнымі партыямі, якія ўзніклі на Беларусі ў апошнія гады. Сёння вы больш падрабязна даведаецеся пра Аграрную партыю, якая здолела вельмі моцна заявіць аб сабе на сёлетніх парламенцкіх выбарах і ўпэўнена лідзіруе па колькасці галасоў, аддадзеных выбаршчыкамі на яе карысць. Зараз Аграрная партыя налічвае ўжо 12 тысяч чалавек, яе фракцыя ў новым парламенце хутчэй за ўсё будзе самай вялікай і ўплывовай. Пра саму партыю, яе праграмныя, прынцыповыя пазіцыі расказвае старшыня Аграрнай партыі, дэпутат Вярхоўнага Савета новага, трынаццатага склікання, былы старшыня калгаса Сямён ШАРЭЦКІ. Дарэчы, у час размовы высветлілася, што раней Сямён Георгіевіч быў нештатным карэспандэнтам нашай газеты. Прыемна.**

-- Аграрная партыя нарадзілася ў чэрвені 1992-га года. Але задума стварыць яе, безумоўна, узнікла раней. Чаму? І я, і некаторыя іншыя мае калегі, якія і сталі арганізатарамі [illegible]ыі, прыйшлі да высновы, што [illegible]макратызаваць грамадства магчыма толькі тады, калі эканоміка будзе базіравацца на шматукладнасці, а палітычная сістэма -- на шматпартыйнасці.

Чаму патр[illegible]была менавіта аграрная пар[illegible]ыя? Прыйшлі да такога меркавання па дзвюх прычынах. Першая і, бадай, галоўная -- тая, што ў Беларусі вялікая праслойка аграрнага насельніцтва. Другая, што ўжо на той час мы сабе дакладна ўяўлялі, ды і зараз перакананы: без аграрнай рэформы ніякія іншыя рэформы ісці не могуць. У сувязі з усім тым і з'явілася Аграрная партыя.

**-- А які сэнс укладвае ваша партыя ў паняцце "аграрная рэформа"?**

-- Тут два аспекты. Па-першае, стварэнне спрыяльных умоў для развіцця сельскай гаспадаркі і аграпрамысловага комплексу ў цэлым. І другое -- рэарганізацыя саміх калгасаў і саўгасаў, якія былі ў свой час адлюстраваннем адміністрацыйна-каманднай сістэмы і маглі функцыяніраваць у такім выглядзе толькі ў тых умовах, якія стварала гэтая сістэма.

Але рэфармаваць -- не значыць знішчаць і разбураць, як гэта ў нас імкнуцца рабіць зараз. І нярэдка ва ўсім вінавацяць самі калгасы. Калі і ёсць іхняя віна, то толькі ў тым, што яны няправільна арганізаваны: дрэннымі метадамі і на тых прынцыпах, якія не прыдатныя для функцыяніравання ў рынкавай эканоміцы.

**-- Ці можна апошняе канкрэтызаваць?**

-- Не павінны быць такімі, як ёсць сёння, узаемаадносіны калгасаў і дзяржавы. Дзяржава, па сутнасці, зрабіла калгасы дзяржаўнымі ўтварэннямі, калі па сваёй прыродзе яны - кааператыўныя прадпрыемствы, якія павінны быць заснаваны на калектыўнай працы, але на прыватнай форме ўласнасці, дакладней, прыватна-групавой. Дзяржава ж пачала дыктаваць калгасам і ўвогуле рэгламентаваць усю іхнюю дзейнасць. Вось таму калгасы трэба "раздзяржавіць", але не даводзіць да галечы буйную вытворчасць. Гэта значыць, зрабіць іх кааператывамі, падобнымі, скажам, на шведскія.

**-- А што ў калгасах можа быць прыватнай уласнасцю?**

-- Сродкі вытворчасці і выпрацаваная прадукцыя. Ідуць спрэчкі -- а як быць з зямлёй? Калі паглядзець, аказваецца, гэта не самае галоўнае пытанне. Ва ўсім свеце ідзе адзяржаўліванне зямлі, а не яе прыватызацыя.

**-- У такім разе ваша партыя "за" ці "супраць" прыватнай уласнасці на зямлю?**

-- Мы за разумнае спалучэнне: дзе неабходна прыватная ўласнасць, ёсць такая мэтазгоднасць -- там трэба яе ўводзіць. Мы, напрыклад, вітаем, што ўвялі прыватную ўласнасць на дачныя надзелы, на прысядзібныя ўчасткі, мы не супраць увядзення прыватнай уласнасці на зямлю, скажам, пад замежную вытворчасць, калі замежныя інвестары захочуць будаваць на ёй завод і г.д. Трэба, канешне, прадаваць зямлю і дазваляць -- няхай будуюць. Але няма ніякай неабходнасці ўводзіць паўсямесную прыватную ўласнасць. Гэта проста адкіне нас назад.

**-- А прыватная ўласнасць для фермера!**

-- Можа быць. Але ж саміх фермераў няма пакуль. А тыя фермеры, што ёсць, нават не ставяць пытанне пра прыватную ўласнасць на зямлю. Для іх хапае арэнды з правам спадчыннасці. І гэта ўвогуле разумна.

**-- Такім чынам, ваша партыя фермераў падтрымлівае!**

-- Канешне, у маю бытнасць старшынёй у нашым калгасе было 26 фермераў. Мы ім дапамагалі. Але гэтыя людзі не выходзілі з калгаса. Яны карысталіся матэрыяльна-тэхнічнай базай за вызначаную плату, са сваімі сродкамі вытворчасці, калі былі вольныя, удзельнічалі ў рабоце ў калгасе, таксама за плату...

**-- І сваю прадукцыю былі вымушаны здаваць у калгас!**

-- Не, прадукцыяй распараджаліся самастойна. Але фермеры разумелі, што ім, акрамя як у калгасе, няма дзе адразу ўзяць сушылку, нафтабазу, майстэрні. Ды і навошта шукаць, калі ўсё гэта ўжо пабудавана? Ці не лепей такія гаспадарчыя аб'екты зрабіць кааператыўнымі і выкарыстоўваць сумесна?

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### Рыгор БАРАДУЛІН ПРА ЧАС І ПРА СЯБЕ

# ЖЫЦЬ, А НЕ ПЛАКАЦЬ БЯСКОНЦА

*-- Рыгор Іванавіч, ці не складваецца ў вас уражанне, што апошнім часам пэўныя палітычныя сілы свядома блытаюць такія паняцці, як "нацыянальнае" і "нацыяналістычнае"?*

-- Я разглядаю гэта як рэцыдывы савецкага мыслення. Камуністы ўвесь час займаліся тым, што будавалі мост уздоўж рэчкі. Глядзіце самі: у адным з найбольш любімых імі слоў -- "інтэрнацыяналіст" гэты самы "нацыяналіст" і прысутнічае. Між іншым, на мой погляд, нацыяналізм -- гэта цалкам нармальная з'ява, бо гэта азначае любоў да сваёй нацыі.

*-- Якімі вы бачыце сёння ўзаемаадносіны паэта і ўлады?*

-- Самае галоўнае як сёння, так і заўсёды -- гэта каб паэт не быў на пабягушках ва ўлады. У былыя часы спецыяльна ствараліся штучныя ўтварэнні накшталт Саюза пісьменнікаў, якія дазвалялі трымаць усіх у полі зроку, кіраваць імі, назіраць. Пісьменнікаў добра кармілі, за што літаратура абслугоўвала камуністычную ідэалогію.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## Сямён ШАРЭЦКІ:

# "А КАЛІ Я НІ ДА КОГА?.."

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Цяжка пакуль фермерам, тут калгасам і саўгасам -- буйным вытворчым адзінкам нялёгка выжыць.

**-- Сямён Георгіевіч, я так цалкам і не зразумела: ваша партыя на якім палітычным флангу -- левым, правым! А, можа, у цэнтры!**

-- Мяне проста абурае, калі табе хочуць абавязкова ярлык навесіць -- "чырвоны" ты ці "белы". Зноў спрацоўвае старая мадэль мыслення: каб ты быў абавязкова кімсьці, каб ты не быў самастойным. Вось сёння і атрымліваецца, нібыта толькі і ёсць з аднаго боку -- БНФ, з другога -- камуністы. І адразу пытанне: ты да каго? А калі я ні да кога? Такія падзелы партый, людзей з'явіліся ў час рэвалюцыйных штурмаў, у час вялікіх перадзелаў.

**-- А вам рэвалюцыі падабаюцца!**

-- Я прыхільнік эвалюцыі. Рэвалюцыю не адмаўляю як факт. Бываюць сітуацыі, калі грамадства, яго лідэры наробяць столькі памылак, што рэвалюцыя тады, хочаш ты таго ці не, ужо непазбежная.

**-- Ваша партыя ставіць сваёй задачай не даводзіць палітычную сітуацыю да выбухова небяспечнага рэвалюцыйнага стану!**

-- Любая разумная партыя, не авантурыстычнага, не лявацкага кшталту, абавязкова будзе ставіць такую задачу.

**-- А як ваша партыя ставіцца да багатых людзей!**

-- Станоўча. Але мы супраць звышбагацця і звышбеднасці. Не павінна быць крайніх полюсаў, якія могуць прывесці да новага семнаццатага года. Паўсюль, у любой краіне, дзе не хочуць сацыяльнага выбуху, не даводзяць справу да крайнасцяў, у тым ліку, і ў першую чаргу, да палярызацыі людзей на багатых і бедных. Мне спадабаўся выраз Кенэдзі, які сказаў, што, калі мы не дапаможам многім бедным, то не здолеем захаваць і нешматлікіх багатых. Больш за ўсё мне падабаецца шведская эканоміка.

Любы рух наперад -- гэта, я б сказаў, расшыванне вузкіх месцаў, якія і так існуюць, але іх больш з'яўляецца з ростам эканомікі. І мне падабаецца шведскае разумнае спалучэнне дзяржаўнай формы ўласнасці і прыватнай, канкурэнцыі і магутнай сацыяльнай абароненасці людзей з боку дзяржавы.

**-- Такім чынам, ваша партыя будзе змагацца за тое, каб не было бедных, ці за тое, каб не было багатых!**

-- Каб не было бедных. Але для таго каб не было бедных, трэба, каб не было звышбагатых, якія абкрадваюць усё грамадства.

**-- Можа, у такім выпадку трэба ўжо весці размову не проста пра вельмі багатых, а пра крымінальнае накапленне багацця!**

-- Мы прытрымліваемся так званага прынцыпу дэмакратычнага сацыялізму, увогуле праграмы сацыял-дэмакратыі. Дык вось, каб не было вельмі бедных, трэба ўсё ж такі ўзяць лішкі ў вельмі багатых шляхам пераразмеркавання з дапамогай падаткаў і аддаць тым, вельмі бедным. Але, падкрэсліваю, калі мы і гаворым, што нешта трэба нацыяналізаваць, то не з дапамогай ружжа, а з дапамогай эканамічных метадаў.

**-- А што б вы нацыяналізавалі сёння з таго, што ўжо было дэнацыяналізавана!**

-- Я бы забраў тыя грошы (эканамічнымі метадамі, натуральна), якія былі ўкрадзены ў дзяржавы некаторымі банкірамі.

**-- Калі вы "пакладзяце" на дол камерцыйныя банкі, якім шляхам будзе развівацца шматукладная эканоміка!**

-- Я лічу, што мы пачалі рэфармаванне і стварэнне шматукладнай эканомікі не з таго боку. Не з банкаў, а з вытворчасці трэба было пачынаць. Выкарыстоўваючы ў тым ліку і банк, як сродак уплыву на эканоміку. Мы ж, дакладней, урад Кебіча, гэтыя банкі выпусцілі з рук, і яны зараз настолькі абасобіліся, што кіруюцца толькі сваімі інтарэсамі. Яны не вядуць эканоміку да шматукладнасці, яны яе губяць і жыруюць на ёй.

**-- Але ж і яны не самазабойцы, і яны павінны разумець, што, калі будуць думаць толькі пра сябе, то ўсё вельмі хутка скончыцца!**

-- А хіба былі самазабойцамі Пурышкевіч і кампанія, якія давялі краіну да семнаццатага года? Ленін з'явіўся, бо наспелі ўмовы.

**-- У такім разе, павінен быць толькі дзяржаўны банк!**

-- Я так не лічу. Проста прыватныя банкі павінны ўтварацца на прыватным капітале, а не з дапамогай крадзяжу дзяржаўнага капіталу. Вось тады б і ішлі, калі казаць па-сялянску, ноздра ў ноздру, рэарганізацыя вытворчасці і банкаў. А так мы паставілі каня ззаду воза.

**-- І вы лічыце, што дзяржаўны сектар будзе дамінаваць!**

-- Я лічу, што ўсё павінна быць разумным. Прыватызацыю трэба было пачаць з дробнай вытворчасці і сельскай гаспадаркі. А дзе там спыніцца -- не трэба вычэрчваць схем, як мы раней рабілі. Трэба вырашаць тыя пытанні, што наспелі, і тады будзе бачна, дзе тая мяжа. У Францыі, напрыклад, не лічаць, што завод "Рэно" павінен быць прыватным. І ў Швецыі трэцяя частка вытворчых рэсурсаў у дзяржаўных руках. Але ў той жа час навошта мець дзяржаўную цырульню альбо абутковую майст[illegible]ню? Ды і ўсе гэтыя цукерач[illegible] фабрыкі, піўзаводы...

[illegible] ж зрабілі вялікую памылку ў свой час, прыняўшы пастанову аб прадпрыемстве, калі пакінулі прадпрыемствы дзяр[illegible]ымі, але ў той жа час дзяр[illegible] адмовілася ад кіраўніцтва і[illegible]. Гаспадар адмовіўся ад кіравання сваёй уласнасцю, не перадаўшы яе іншаму гаспадару. Прыкладна так зрабіў Гарбачоў, калі пачаў перабудову. Я лічу, што такі пункт гледжання даволі пашыраны і сярод народа.

**-- Вы заўсёды кіруецеся тым, што хоча народ, масы!**

-- Гэтага проста нельга рабіць. Масы трэба весці, на тое яна і ёсць дзяржава -- павінна кіраваць. Мы за дзяржаўнае рэгуляванне з разумным спалучэннем канкурэнцыі.

**-- Сямён Георгіевіч, ваша аграрная фракцыя ў парламенце хутчэй за ўсё і пасля паўторных выбараў застанецца самай вялікай. Зразумела, што пры гэтым вы будзеце імкнуцца праводзіць уласную палітыку. Але можа здарыцца, што і вам прыйдзецца ісці з кімсьці ў блоку. Хто гэта можа быць!**

-- Мы падпісалі пагадненне з партыямі сацыялістычнага кшталту. Дарэчы, з паняццем "сацыялістычны" і па сённяшні дзень не ўсё так проста. У васемнаццатым годзе было дзевяць партый, у праграмах якіх ставілася задача пабудовы грамадства на асновах сацыялізму. Вось толькі, што такое "сацыялізм", кожная партыя разумела па-свойму. Нешта падобнае адбываецца і сёння.

**-- А якія партыі вы лічыце сацыялістычнымі на Беларусі сёння!**

-- У гэтым накірунку, мне здаецца, працуе і сацыял-дэмакратычная Грамада. І камуністы. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што апошнія "правеюць". Цяжка, але "правеюць".

**-- Як вам бачыцца, ці хопіць у вашай парламенцкай фракцыі сіл, каб аказваць рэальны ўплыў на падзеі ў краіне!**

-- Калі нас будзе дастаткова, каб уплываць на ход галасавання ў парламенцкай зале, то я мяркую -- так. Тым бол[illegible], што мы ўпэўнены, і я гэта [illegible] падкрэсліць, што прэзід[illegible] яго адміністрацыя, як уладная структура, таксама шукаюць выхад з тупіка, яны і мы знойдзем агульную мову.

**-- Вы ва ўсім падтрымліваеце прэзідэн[illegible]**

-- Ва ўсім падтрым[illegible] немагчыма. Мы партыю не стварылі б, калі б ва ўсім былі згодныя з дзеяннямі ўлады. Тым больш, што не можа быць праўда заўсёды на баку аднаго чалавека. Напрыклад, наша партыя згіне, калі яна будзе заўсёды і ва ўсім са мной, як з яе кіраўніком, пагаджацца.

**-- Вы дапускаеце для сябе магчымасць пярэчыць прэзідэнту!**

-- Не пярэчыць, а ўступаць у палеміку і шукаць ісціну.

**-- Але ў апазіцыі вы сябе не бачыце!**

-- Мы не ідзём у парламент для таго, каб быць у апазіцыі да прэзідэнта. Мы ідзём, каб быць побач і побач працаваць.

**-- Здаецца, Аграрная партыя падтрымала веснавую змену дзяржаўнай сімволікі ў краіне!..**

-- Не ўсё так адназначна. Мы і некалькі год таму былі супраць змены дзяржаўнай сімволікі, на той час савецкай, на новую. І зараз не стаялі за чарговыя змены. Але і не казалі катэгарычнае "не". Асабіста я нічога не меў супраць бел-чырвона-белага сцяга. Але мне быў незразумелым герб "Пагоня". Калі б гэта залежала ад мяне, то я на дзяржаўным гербе зрабіў бы выяву зубра -- моцнай і мірнай жывёлы.

**-- І апошняе па ліку, але, мабыць, галоўнае па сэнсу пытанне. Як вы ставіцеся да незалежнасці Беларусі і магчымасці яе інкарпарацыі ў склад Расіі!**

-- Я -- за суверэнітэт Беларусі. А суверэнітэт -- гэта права самім вызначаць свой лёс. Але я лічу, што пры цяперашнім развіцці вытворчых сіл і абагульненні вытворчасці не можа быць краіна незалежнай. У Еўропе ствараюцца па сутнасці "злучаныя штаты Еўропы" -- з агульнай абаронай, з агульным урадам, замахваюцца на агульныя грошы.

**-- Але ж там пакуль існуюць самастойныя дзяржавы...**

-- Суверэнныя, а не самастойныя. Якія ж яны самастойныя, калі не валодаюць правам вызначаць цану на свой прадукт.

**-- Тады коратка: вы бачыце Беларусь у складзе Расіі!**

-- Не. Я бачу Беларусь побач з Расіяй, як і побач з іншымі краінамі. Але не ў складзе.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# СВЯТА БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ







*(Заканчэнне. Пачатак фотарэпартажу на 1-й стар.).*

**Восем стагоддзяў назад у Іерусаліме спачыла першая асветніца і заступніца зямлі беларускай Прападобная Ефрасіння, князёўна, ігумення манастыра святогоа Спаса ў Полацку.**

**Толькі ў 1910 годзе святыя мошчы Ефрасінні вярнуліся на родную зямлю, даруючы выратавальную надзею і асяняючы шматпакутны народ Беларусі. У той год эскадра прыгожых рачных караблёў велічна прайшла па Дняпру. Рэчыца, Любеча, Стары Быхаў, Магілёў, Орша сталі месцамі прыпынку эскадры, што перавозіла мошчы святой Ефрасінні ў Полацк з Кіева, дзе яны з шанаваннем захоўваліся на працягу многіх стагоддзяў.**

**Прайсці маршрутам той духоўнай місіі стала задачай навукова-творчай экспедыцыі "Дарога да святыняў". Удзельнікі гэтай экспедыцыі — вядомыя вучоныя, дзеячы мастацтваў, грамадскія дзеячы разам з групаю духоўнай падтрымкі атрымалі асабістае благаславенне Экзарха ўсяе Беларусі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, які ўручыў членам экспедыцыі лампаду Духоўнасці з жыватворным агнём ад гроба Гасподняга. Гэты агонь трэба было пранесці па гарадах і вёсках Полацкай, Магілёўскай, Гомельскай абласцей, наведваючы старажытныя цэнтры нашай гісторыі, культуры, духоўнага жыцця. Па дарозе адбыліся навукова-творчыя канферэнцыі, асвячэнне памятных знакаў у месцах, дзе ў 1910 годзе пабывалі святыя мошчы Ефрасінні Полацкай.**

**У Полацку, Быхаве, Рэчыцы, Тураве тысячы жыхароў сустракалі ўдзельнікаў гэтай незвычайнай экспедыцыі. Гэтыя сустрэчы станавіліся сапраўднымі святамі для людзей, якія жадалі запаліць свае свечкі і лампады ад жыватворнага агню лампады, зацепленай ля гроба Гасподняга.**

**НА ЗДЫМКАХ: лампада Духоўнасці ў полацкім Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры; малітву да святой Ефрасінні чытае ўдзельнік экспедыцыі віцэ-прэзідэнт Усебеларускага жаночага фонду імя Ефрасінні Полацкай, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч; асвячэнне Крыжа ў Быхаве, дзе на тэрыторыі палаца былога канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі ў 1910 годзе спынялася рака са святымі мошчамі; сустракаць экспедыцыю выходзілі стары і малы.**



**Яўгеній ПЯСЕЦКІ.**
**Фота аўтара.**

# ...ВЕКАВЕЧНЫ ТОЛЬКІ КРАЙ

## (Эсэ-спадзяванне)

ХТО ЁСЦЬ для мяне землякі? Суайчыннікі, хаты каторых месцяцца ў Слабадзе за віхлястай Цітаўкай (таму і завецца родная вёсачка Зацітава Слабада)? Усе без выключэння пухаўчане? І першыя, і другія, і шмат хто яшчэ з беларусаў, сустрэтых і адкрытых мною, дарэчы, часам і па-за Беларуссю. Вось толькі дома... Так, дома, на Беларусі, не ўсіх за землякоў вялікая ахвота прымаць, гавару як ёсць. Гавару ўсю праўду. Іначай...

Калі смутна, калі самотна, заўжды мяне супакойваюць адны толькі ўжо маўклівыя сустрэчы з сапраўднымі землякамі. Яны сама гасціннасць, сама шчодрасць, якія нічым не вымераць. Што казачны абрус з прысмакамі ў параўнанні з сабранымі на хуткую руку агуркамі, салам...

Здараецца, што бачуся з імі ў адзін дзень. У паўдзёнку. Мне не трэба іх стагоддзі. Усе ж мы не шмат вечныя. Тым больш, што землякі мае -- людзі багатыя. Я ашчаджаю іх час. Баюся бязмэтна патраціць іх хвіліны, гадзіны, патрэбныя вечнасці. Паэт жа неяк наўздзіў пранізліва сказаў пра іх, пэўна, таксама:

**Што векавечны толькі край,**
**і далеч,**
**І жоўты ліст**
**на зелені травы...**

Іх час, іх клопат, іх усезямляцкае суперажыванне за Беларусь патрэбны вечнасці. Хаця і лёс у кожнага -- розны. Узрост -- таксама. Ды адна зямля, адны ваколіцы спарадзілі іх да жыцця, да дарогі, да сустрэчы са мною. Тая натхняльна-вытанчаная аура, што знаёмая мне па маці, дзеду (рудзенска-дукорскае крыло пухавіцкага кавалачка Айчыны), загартавала іх, з інтэлігентаў па духу зрабіла маіх землякоў байцамі з жыццём і за жыццё. Праўда, байцамі інтэлігентнага кшталту. Ніводзін з іх не сягаў у паднябессе кіруючых кабінетаў, цэкоўскіх, міністэрскіх і іншых. А калі і даводзілася камусьці па пасадзе прыўздымацца над людзьмі, мець некага пад сваім началам, то рабілі гэта толькі ў межах сваёй адукацыі, свайго вопыту, калі адчувалі, што здольныя, што маюць права кіраваць, вучыць. Як, прыкладам, Аркадзь Сцяпанавіч Крук, колішні прарэктар Мінскага медыцынскага інстытута. Чалавеку гэтаму, заслужанаму дзеячу навукі Беларусі, доктару медыцынскіх навук, аўтару многіх навуковых манаграфій, і сёння знаходзіцца месца ў жыцці. Аркадзю Сцяпанавічу -- 75. А да яго і зараз спяшаюцца па кансультацыю, параду. Яшчэ ці не два гады назад Крук і сам выконваў самыя складаныя аперацыі, даваў людзям шанц хадзіць, мець здаровыя рукі і ногі. Здарыцца гора, бяда, пералом, то згадайце любому траўматолагу прозвішча Крука. Ва ўсіх дактароў яно выкліча душэўнае трапятанне, паважлівую згадку. Усе, многія пакаленні -- яго вучні.

З гомельскай шашы, па дарозе з Мінска, кіламетраў за шэсць да Дукоры, збочваем управа, уязджаем у Голацк. Даўні Голацк, тапонім якога не згубіўся і ў савецкім бязладдзі. І на вуліцы Народнай спяшаюся адчыніць веснічкі ў падворак Аляксандра Пікуліка. Усё сваё жыццё ён адпрацаваў сельскім бібліятэкарам. Цяпер -- пенсіянер. Гады (і немалыя!) ён, чалавек з хворым сэрцам (з тых, хто кожнаму новаму дню радуецца!), аддаў дзіўнай і эмацыянальна ўзрушлівай (не для сардэчнікаў!) справе. Краязнаўству! Дзе вы па Беларусі (у глухой, з асеннім росхрыстам дарог на ўвесь год вёсачцы) знойдзеце такога дзівака?! Не ўсюды, мажліва, за каровамі і свінымі чыгунамі, на фармуляры чытацкія ды ўсялякія справаздачы час знаходзіцца. Пікулік жа шукаў (шукае і зараз!) звесткі пра герояў-землякоў. Піша ў музеі, архівы, звяртаецца да людзей праз газеты. Аднаўляе ісціну. Дапамагае шукаць справядлівасць. Падказвае шлях да праўды. Такія людзі, як Пікулік, ва ўсялякім грамадстве павінны быць у пашане, бо яны захавальнікі і збіральнікі ўсенароднай памяці. Ды ў пашане, здаралася, былі іншыя. Тыя, што пра памяць больш на партыйных сходах гаварылі, чымся шанавалі сапраўдных, сумленных герояў і радавых, жывых і мёртвых, іх спакутаваныя сем'і.

Пікулік улюбёны ў сваіх герояў. Ведае ён і ўсе акалічнасці, перыпетыі іх жыццяў, іх дзіцячыя лёсы, іх юнацкія захапленні. І галоўнае, што Аляксандр Васільевіч зрабіў за гады росшукаў, дык гэта адкрыццё сутнасці подзвігу. Геранчны ўчынак, подзвіг -- гэта сумленнасць, праўдзівасць. Такая вось формула.

Сёння мы ў пікулікаўскім садзе. Алыча, слівы, грушы, чорная рабіна, яблыкі, вішні, маліна -- чаго тут толькі няма. Аляксандр Васільевіч, нягледзячы на ўсе мае маленні-пратэсты, пакуе кош яблыкамі ды грушамі. І ўслед, і поруч з гэтым клопатам гаворым. Узрушана, як заўсёды, трывожна расказвае-сведчыць Пікулік:

... -- Прайшлі пераможныя ўрачыстасці. І ў газетах ужо ні слова пра ветэранаў. Што -- стаміліся?.. Ды і паўсюдна забыліся на вайну...

Пікулік знаходзіць у траве велізарны сонечны яблык. А я за паўзаю, за яго цяжкім сардэчным прыдыханнем баюся, што скажа вось-вось Пікулік нешта з чужых мне па духу асэнсаванняў. Ведаю ж, што яму (што грэх хаваць?!), дзіцяці вайны, дзіцяці іншага часу, многае не па душы і ў беларускім адраджэнні таксама, і ў дэмакратычных пераўтварэннях таксама. Чакаю, баюся... Прыкідваю, як пасля, услед павесці сябе. Ды...

(Заканчэнне на 8-й стар.).

*ГІСТАРЫЧНАЯ РЭТРАСПЕКТЫВА*

# НЕНАПАДЗЕННЕ

Рыфмавана перадаюць падзеі паэты -- камсамольцы Літінстытута І. Баукоў, Б. Захадэр, А. Капштэйн, М. Луконін, Л. Ашанін, С. Смірноў, А. Яшын; відаць, адзіны ў гісторыі літаратурны выпадак, калі адзін верш напісаў "паэтычны калгас" -- сем паэтаў разам:

**...Все обиды, всю неправду,**
**Как бурьян, скосила**
**Нашей Армии Червонной**
**Молодая сила.**
**...Старики роняли слёзы,**
**Подолгу глядели**
**На портрет вождя народов**
**В походной шинели...**

Кранаючы гэты шынель на плячах чалавека, які ўжо гадоў пятнаццаць робіць паходы толькі з Крамля на курорт і назад.

Але вернемся да прамовы Молатава па радыё, бо яна прагучала праз некалькі гадзін ужо пасля пачатку ваенных дзеянняў. Адным з галоўных матываў нашага рашэння называўся прыгнёт у Польшчы нацыянальных меншасцей (беларусаў і ўкраінцаў), гэта прагучала як няяўнае выказванне салідарнасці з Гітлерам, які таксама абвінаваціў Польшчу менавіта ў гэтым граху (але ў адносінах да немцаў). Да адкрытай салідарнасці з Гітлерам заставаліся адны суткі.

У гэты ж дзень у 15.10 фашысцкія самалёты раскідалі над акружанай Варшавай мільёны лістовак: "Да насельніцтва Варшавы. Ваш урад зрабіў горад раёнам бітваў, пазбавіўшы яго характару адкрытага горада. Ваша ваеннае кіраўніцтва не толькі абстраляла горад цяжкай артылерыяй, але таксама заклікала вас будаваць на кожнай вуліцы барыкады і аказваць германскім войскам наймацнейшае супраціўленне. Патрабаваннем ад грамадзянскага насельніцтва са зброяй у руках аказваць супраціўленне германскім войскам і весці партызанскую вайну ваш урад парушыў міжнароднае права..."

Нашы газеты перадрукавалі тэкст гэтай доўгай лістоўкі без скарачэнняў і каментарыяў. Затое, калі праз тыдзень Варшава падверглася масіраванай бамбардзіроўцы і ў пазбаўленым вады горадзе пачаліся пажары, пра гэта не гаварылася нічога.

### ЯК ГЭТА БЫЛО?

І быў вечар, і была раніца. Дзень васемнаццатага верасня. Таксама гістарычны: гэта дзень германа-савецкага камюніке. "Каб пазбегнуць усялякіх неабгрунтаваных чутак наконт задач савецк[illegible] і германскіх войск, што [illegible]ічаюць у Польшчы, урад [illegible]СР і ўрад Германіі заяўляюць, што дзеянні гэтых войск не праследуюць мэты, якая б ішла ўразрэз інтарэсаў Германіі ці Савецкага Саюза і супяр[illegible]а духу і літары пакта аб не[illegible]дзенні, заключанага паміж Германіяй і СССР. Задача гэтых войск, наадварот, заключаецца ў тым, каб аднавіць у Польшчы парадак і спакой, парушаныя распадам польскай дзяржавы, і дапамагчы насельніцтву Польшчы перабудаваць умовы свайго дзяржаўнага існавання".

Гэта было апублікавана на першых палосах "Правды" і "Известий".

У гэтай заяве сказана такое, чаго не было ні ў жнівеньскім дагаворы аб ненападзенні, ні ў будучым вераснёўскім аб дружбе і мяжы. Савецкі ўрад падпісаўся: гітлераўцы ў Польшчы толькі "аднаўляюць парадак" і "дапамагаюць насельніцтву". Ці была ў гісторыі больш адкрытая і бессаромная здрада сваім жа ідэям і лозунгам, думкам і пачуццям?

Асноўныя сілы польскай арміі былі акружаны нямецка-фашысцкімі войскамі і знішчаліся ў заходняй частцы краіны, паміж Бзурай і Віслай. Пасля жорсткіх баёў вялікая баявая група пад камандаваннем генерала Кутжэба ўсё-такі вырвалася да Варшавы...

У ходзе баявых аперацый Чырвоная Армія цесна супрацоўнічала з нямецкім ваенным камандаваннем. Яшчэ раніцай 1 верасня нямецкае пасольства звярнулася да Молатава з просьбай выкарыстаць у якасці радыёмаяка для нямецкіх самалётаў радыёстанцыю ў Мінску. У пэўны час яна давала радыёпазыўныя. Скарыстоўваючы гэты радыёмаяк, нямецкія бамбардзіроўшчыкі дакладна бамбілі Варшаву і іншыя польскія гарады.

Мы добра ведаем аб абароне Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе, але практычна нічога -- аб яе польскай абароне ў 1939-м. 14 верасня 19-ты танкавы корпус Г. Гудэрыяна кідком з Усходняй Прусіі захапіў Брэст. Крэпасць жа на працягу некалькіх сутак абаранялася польскімі войскамі пад камандаваннем генерала К. Плісоўскага. Толькі ў ноч на 17 верасня яе абаронцы ў арганізаваным парадку пакінулі форты і адышлі за Буг.

А да горада набліжаліся савецкія часці пад камандаван[illegible] В. Чуйкова. Камандзір аван[illegible]днай танкавай брыгады камбрыг С. Крывашэін заняў Брэст. Ад немцаў запатрабавалі адвесці свае войскі за дэмаркацыйную лінію, бо горад знаходзіўс[illegible] савецкай сферы падзелу П[illegible]шчы.

У азнаменаванне перамогі над Польшчай у Гродне, Брэсце, Пінску і некаторых іншых гарадах адбыліся сумесныя савецка-германскія ваенныя парады. У Брэсце парад прымалі Г. Гудэрыян і камбрыг С. Крывашэін, у Гродне разам з нямецкім генералам -- камкор В. Чуйкоў.

У гэты час тысячы польскіх салдат і афіцэраў адыходзілі ў Літву, Венгрыю, Румынію. Фашысты дабівалі акружаныя войскі і гарнізоны. А бадзёрыя мітынгі ў Маскве і Ленінградзе, у Мінску і Кіеве не канчаліся. А грунт Курапат і Хатыні яшчэ прыме тых, хто пакуль жывы. А ў Берліне...

"Берлін, 19 верасня. (ТАСС). Германскае насельніцтва адзінадушна вітае рашэнне савецкага ўрада... Берлін у гэтыя дні прыняў асабліва ажыўлены выгляд. На вуліцах каля вітрын і спецыяльных шчытоў, дзе вывешаны карты Польшчы, увесь дзень тоўпяцца людзі. Яны ажыўлена абмяркоўваюць пасляховыя аперацыі Чырвонай Арміі. Прасоўванне часцей Чырвонай Арміі пазначаецца на карце чырвонымі савецкімі флажкамі".

Дваццатага верасня ў Заходнюю Беларусь выехалі савецкія артысты -- даваць канцэрты. Вайна была вельмі кароткай, аперацыі, толькі пачаўшыся, ужо падыходзілі да канца. З лёгкай зларадаснасцю апісвае карціну разгрому Віктар Шклоўскі:

"Польская армія пакідае пасля сябе рознакаліберныя рэшткі.

Польская буржуазія бегла спачатку з захаду на ўсход, потым з Усходу на поўдзень.

...Польшча ваяваць не магла. Яна магла толькі казырыцца..."

Трэба ж, нават "з захаду на ўсход" (г. зн. ад фашыстаў) бяжыць толькі буржуазія! Але калі карціны панікі памешчыкаў і капіталістаў, а таксама сцэны радасных сустрэч мясцовых жыхароў і Чырвонай Арміі знаходзілі сваё месца на старонках нашай прэсы, то аб падзеях у акупіраваных Германіяй раёнах савецкаму чалавеку даведацца не было адкуль. Панавала тактычнае маўчанне. Затое -- з не меншай карэктнасцю -- наш народ апавяшчалі аб прамовах Гітлера. Дваццатага верасня фюрэр выступіў па радыё ў Данцыгу: "Лёс, што спасціг гэты горад і вобласць, быў лёсам усёй Германіі. Сусветная вайна -- самая недарэчная вайна ў гісторыі -- ператварыла гэтую вобласць і гэты горад у свае ахвяры..."

Гэта гаворыць Адольф Гітлер. Хаця яго ўжо цяжка адрозніць ад Молатава.

Гэты "праціўнік насілля", як і ўсё прагрэсіўнае чалавецтва, не ўпускае выпадку выказаць сваю салідарнасць з Масквой: "Расія аказалася вымушанай са свайго боку ўвесці свае войскі для абароны ўкраінскага і беларускага насельніцтва Польшчы. У Англіі і Францыі лічаць злачынствам супрацоўніцтва Германіі і Расіі... Урокі 4 год вайны дастатковыя для абедзвюх дзяржаў і народаў. Мы маем намер прадстаўляць і абараняць свае ўласныя інтарэсы і знайшлі, што лепш за ўсё дзвюм самым буйным дзяржавам і народам Еўропы дамовіцца аб згодзе..."

На тэрыторыі Беларусі самыя напружаныя баі разгарнуліся ў раёне Гродна, дзе скапіліся шматлікія польскія часці, што адступалі з розных напрамкаў. Але нягледзячы на актыўнае супраціўленне, 20 верасня горад быў узяты часцямі Чырвонай Арміі. Акрамя яго, 20 верасня часці Чырвонай Арміі занялі Баранавічы і Маладзечна, а праз 2 дні, 22 верасня, Брэст.

Насельніцтва радасна сустракала савецкіх воінаў. Амаль 20 гадоў беларусы і ўкраінцы знаходзіліся ў складзе Польшчы. Польскія кіраўнікі ў гэтыя гады праводзілі гвалтоўнае апалячванне насельніцтва: закрывалі беларускія і ўкраінскія школы; ператваралі праваслаўныя цэрквы ў касцёлы; адбіралі ў сялян лепшыя землі, перадаючы іх польскім асаднікам.

У кастрычніку 1939 года адбыліся выбары ў вярхоўныя сходы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. На беларускіх землях яны прайшлі з высокім узроўнем актыўнасці, прынялі ўдзел у галасаванні 2 мільёны 672 тысячы чалавек. Больш за 90 працэнтаў прагаласавалі за прапановы дэпутатаў. Зразумела, і тут мелі месца падтасоўкі, але застаецца фактам і тое, што ў цэлым беларускае насельніцтва станоўча ўспрыняло ўстанаўленне савецкай улады.

Сапраўды, тады ідэю ўз'яднання беларускага і ўкраінскага народаў, няхай нават пад Саветамі, з энтузіязмам падтрымалі самыя розныя палітычныя сілы -- ад камуністаў да нацыяналістаў.

### ТРАГІЧНЫЯ ЗІГЗАГІ

Але разам з савецкай уладаю прыйшлі і сталінскія парадкі. Пачаліся масавыя рэпрэсіі супраць новых "ворагаў народа" з ліку мясцовых жыхароў заходніх абласцей. З лістапада 1939 года пацягнуліся, у прыватнасці, у Сібір эшалоны з дэпартуемымі жыхарамі. У ліку першых падвергліся рэпрэсіям асаднікі -- адстаўныя афіцэры і унтэрафіцэры польскай арміі.

5 снежня 1939 года СНК СССР прыняў пастанову аб высяленні гэтай катэгорыі грамадзян у Сібір, Казахстан і іншыя аддаленыя раёны краіны. На канец 1939 года НКУС БССР было ўзята на ўлік 8 000 гаспадарак асаднікаў агульнай колькасцю 45 409 чалавек.

Першая масавая аперацыя па высяленню асаднікаў пачалася 10 лютага 1940 года. У выніку гэтай акцыі было выселена і вывезена за межы БССР 50 732 чалавекі.

Другая па ліку акцыя была праведзена 13 красавіка 1940 года. Па яе выніках было выслана за межы рэспублікі 26 777 чалавек. Пры правядзенні гэтай акцыі не засталіся ўбаку і партыйныя органы. 8 красавіка 1940 года сакратарам абкомаў КП(б)Б у Баранавічы, Беласток, Брэст, Вілейку, Пінск былі накіраваны тэлеграмы Бюро ЦК КП(б)Б наступнага зместу:

"13 красавіка г. г. органы НКУС будуць праводзіць высяленне сем'яў рэпрэсіраваных памешчыкаў, афіцэраў, паліцэйскіх і інш.

ЦК КП(б)Б абавязвае вас абмеркаваць на закрытым пасяджэнні абкома партыі даклад начальніка абласнога НКУС і вызначыць усе неабходныя мерапрыемствы па аказанню дапамогі органам НКУС у правядзенні аперацыі.

Сакратар ЦК КП(б)Б
Панамарэнка".

29 чэрвеня 1940 года органамі НКУС была праведзена трэцяя па ліку дэпартацыя людзей у аддаленыя раёны СССР. Яна тычылася вялікай колькасці бежанцаў, якія шукалі прыстанішча ад гітлераўскага тэрору ў Польшчы. Усяго ў гэты дзень з пяці заходніх абласцей рэспублікі было выселена 22 879 чалавек.

Чацвёртая масавая дэпартацыя людзей з заходніх абласцей была праведзена 19-20 чэрвеня 1941 года, за два дні да пачатку вайны. У выніку яе правядзення было рэпрэсіравана яшчэ 24 412 чалавек.

Ігар КУЗНЯЦОЎ.

**Працяг.**
**Пачатак у № 34.**

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




-- Пайшлі! -- сказаў Юлік. -- Нам весялей будзе. Ну і зарабіш таксама.

-- Але ж у мяне няма сьпірту.

-- І ў нас няма. Чакаем Маманта. Па сьпірт да Шэрага пойдзем.

Фактычна праз квадру гадзіны прыйшоў Мамант, крыху пазьней -- Салавей, кіўнуўшы нам галавой, прысеў.

-- Гэты таксама ідзе з намі, -- сказаў яму Юлік.

Мамант доўга глядзеў на мяне, а пасьля, з відавочнай напругай і цяжкасьцю кіўнуўшы галавой, вымавіў:

-- Дык сто?

-- Так, адказаў Юлік. -- Возьмем сто пляшак. Можам ужо ісьці.

Узялі мяшкі і разам з Салаўём выбраліся з хаты. Праз гадзіну вярнуліся назад. Вынялі зь мяшкоў бутэлькі і паставілі іх на стале. Было сто пятнаццаць бутэлек сьпірытусу.

-- Тут больш, чым трэба, -- сказаў я Юліку.

-- Мамант бярэ трыццаць пляшак, а пяць разап'ём па дарозе.

Пачалі рабіць ношкі. Спачатку на стале пакінулі па дваццаць бутэлек. Затым, выцягнуўшы коркі, далілі іх дапаўна, каб было менш посуду. Пасьля зрабілі пяць ношак, у якіх разьмясьцілі бутэлькі, пераклаўшы іх сенам і войлакам. Пакаваў Мамант. Рабіў гэта з вопытам прафесійнага "сьпіртаноша".

Чакалі вечара. Дарога была вельмі далёкая. Вымушаны былі ісьці да аднаго зь мінскіх прадмесьцяў, таму шмат залежала ад таго, каб мы як мага раней вырушылі.

Пасьля другой гадзіны папалудні з усходу пачалі паўзьці шэрыя "дзяды", якія заслалі ўсё неба. Пачаўся дождж. Ён наўскасяк забіваў вакно. За кожным разам цямнела. Мамант ад радасьці паціраў далоні. Такое надвор'е хоць і рабіла дарогу цяжэйшай, давала амаль поўную гарантыю для нашай бясьпекі.

Калі пачало цямнець, мы зьелі вячэру і выпілі разьведзенага вадой сьпірытусу. Пасьля чаго ўзяліся за ношкі. Мужанькі -- малы і смешны, глядзячы добрымі блакітнымі вачыма, паціскаў нам рукі.

-- Зычу вам шчасьця, панове! Не затрымлівайцеся там. Хутчэй вяртайцеся! Я буду бяз вас сумаваць!..

Вырушылі ў дарогу. Крочылі вельмі марудна, абмінаючы розныя, схаваныя ў цемры, перашкоды, і стараліся прызвычаіцца да змроку. Аднак цемра была такая моцная, што прасоўвацца наперад маглі толькі ўсьляпую.

Дождж усё мацнеў. Вецер таксама. Штосьці ўбачыць перад сабой было немагчыма. Нечакана Мамант спыніўся, я крочыў за ім, наступны быў Пятрусь, Юлік і апошнім -- Салавей.

-- На! -- прамовіў праваднік, усоўваючы мне ў руку канец аборкі. Я зразумеў і перадаў яе з рук у рукі наступнаму сябру. Цяпер ішлі, трымаючыся за вяроўку. Было нязручна, аднак ведалі, што не пагубляемся.

Пачалі прадзірацца праз нейкі падгайнік, а пасьля пакрочылі лесам. У пэўным месцы лес скончыўся. Мамант, узяўшы мяне за плячо, моцна пацісНуў. Я зарзумеў яго: зараз будзе мяжа. Асьцярожна паведаміў пра гэта Петрусю.

Дождж ліў шторaз мацней. Мы прамоклі наскрозь, і толькі рух разаграваў нас. Дарога, як ніколі перад гэтым, была цяжкай. Абсалютна нічога не бачачы, з невераГоднай затратай энергіі мы валакліся па мокрай зямлі. Аднак Мамант крочыў досыць упэўнена. Зрэдку спыняўся, шоргаў нагой па глебе, штосьці мармытаў, пасьля зноў ішоў.

Калі лес скончыўся, крочыць стала лягчэй. Ва ўсялякім разе я не чапляўся за розныя перашкоды і не патрэбна было ўвесь час захінаць вочы ад удараў галінак, якіх не бачыў ў цемры.

Пасьля трох гадзінаў дарогі мы адпачылі і выпілі сьпірту. Пазьней зрабілі яшчэ адзін прыпынак і толькі пад раніцу, прайшоўшы трыццаць тры вярсты жахлівай дарогі, праз дзесяць гадзін ад моманту выйсьця з Ракава, мы ў поўнай цемры дабраліся да Мінска. Пры гэтым, што мы былі прызвычаеныя да паходаў.

Са сьпірытусам хадзілі два разы, а потым зрабілі перапынак, бо Мамант і Салавей перайшлі ў партыю Цьвіка. Там работа была лягчэйшая і больш надзейная -- хадзілі бліжэй і не патрабавалася пра штосьці думаць.

У суботу вечарам я піў з хлопцамі ў салоне Гінты. Было весела. Антось так рэзаў на гармоніку, што аж шклянкі трэсліся на стале. Неспадзявана нехта зачапіў мяне нагой пад сталом. Гэта зрабіў Мамант. Я паглядзеў на яго. Кусаючы пазногаць вялікага пальца на левай руцэ, перамытнік вялікім пальцам правай рукі і вачыма паказваў на дзьверы. Зірну[illegible]ды. У дзьвярах стаяў [illegible]фрэд Алінчук. У гэты ж по[illegible]нт Мамант сіпата засьмяяўся і вымавіў:

-- П'янчужка.

Усе рассьмяяліся. [illegible]ьфрэд паспешліва зьнік за д[illegible]ыма.

Пілі далей. Забава іш[illegible]ваўсю. Лорд сьпяваў:

Гэй, там піва! Гэй, гарэлка!
Гэй, там рэжуць на гармоні!
Гэй, там мая Марысенька
Шклянкай аб бутэльку звоніць!

Позна ноччу я вяртаўся дахаты. На небе мігацелі зоркі. Увайшоў на дзядзінец Трафідавай сялібы. Засоваў брамку. У гэты момант справа ад мяне ляснуў стрэл... Потым другі, трэці і чацьвёрты... Я зваліўся на зямлю побач з брамкай. З саду даляцелі крокі, якія пасьпешліва аддаляліся. Я хутка падняўся і, выняўшы з кішэні нож, праз адчыненую фортку кінуўся ў сад. Там было ціха. Хвіліну прыслухоўваўся, пасьля вярнуўся да брамы і выйшаў на вуліцу. Паблізу нікога не бачыў. Шкада, што ня меў пры сабе ліхтарыка. Можна было б па садзе дагнаць таго, хто страляў, а зараз быў бездапаможны што-небудзь зрабіць. Ад таго часу заўсёды насіў пры сабе ліхтарык.

Назаўтра ўважліва агледзеў брамку і сьцяну хаты пры браме. Усе кулі сядзелі ў тоўстых бярвеньнях. Адну здолеў выцягнуць і схаваў яе.

Калі пастукаўся ў дзьверы, Гэля, адамкнуўшы іх, з трывогай запыталася:

-- Гэта пан страляў?

-- Не... Гэта нейкі дурань згаяў ахвоту... Хацеў мяне настрашыць...

-- Тут вечарам нейкія круціліся пад вокнамі! -- паведаміла дзяўчына.

Назаўтра мяне досыць рана разбудзіла Янінка:

-- Там вас нейкі вар'ят кліча!

-- Які вар'ят? Чаму вар'ят?

-- Ну, бо сьмяецца і сьмяецца!

-- Дык у цябе кожны, хто сьмяецца -- вар'ят?

-- Не... Можна крыху пасьмяяцца, а ён увесь час...

-- Дзе ён мяне чакае?

-- За гумном. Сказаў, каб я нікому, акрамя Уладака, не казала і што справа ве-е-льмі важная!

Я хутка апрануўся і выйшаў з памяшканьня.

За гумном убачыў Ёську Гусяра, які сядзеў у зарасніку лопухаў. Ён блішчаў круглай лысай галавой і выглядаў з-за шырокіх лісьцяў, нібы месяц з-за хмар.

-- Што скажаш? -- прамовіў я, вітаючыся.

-- Ёсьць адна справа. Вельмі важная!

-- Калі ласка... Слухаю...

-- Толькі гэта па сакрэту. Магу сказаць табе, але пад прысягай, што нікому не перадасі, што гэта пачуў ад мяне.

-- Даю табе слова, што нікому пра гэта не скажу!

Ёська, азірнуўшыся па баках, ціха вымавіў:

-- Алінчукі хочуць зьвесьці цябе са сьвету. Альфрэд падбіваў пару нашых хлопцаў, каб яны цябе прышылі. Даваў сто рублёў.

-- Адкуль ты гэта ведаеш?

-- Яны прыйшлі параіцца. Мяне ўсе ведаюць... пыталіся: што ты за такі пан? Сказаў ім, каб не рабілі гэтага і што ты сябра Юзіка Трафіды... Зараз павінен пільнавацца, бо Алінчукі -- гэта халеры!

-- Добра, што ты мне расказаў! -- прамовіў я да Ёські. -- Хоць буду ведаць, хто на мяне палюе! Зараз буду сьцерагчыся!.. Учора ўначы, калі вяртаўся дахаты, па мне стралялі!

Ёська зьдзіўлена выгукнуў:

-- Та-ак?! Гэта не з нашых!.. Гэта яны самі секлі! Глядзі! Можа, хочаш мець добрую рулю, дык табе дам... У мяне іх некалькі...

Я разьвітаўся з Ёськам, які падаўся берагам рэчкі, асьцярожна абыходзячы збоку мястэчка. Я пайшоў у хату сьнедаць. Увесь час разважаў пра тое, што расказаў Ёська.

## 9

Увечары я апрануўся ціп-топ! Адзеў зеленаватую, у залатыя кветачкі, камізэльку і з выдумкай завязаў цёмна-фіялетавы гальштук у ружовыя пасачкі. Касьцюм быў цёмна-сіні. Узяўшы лясачку, выйшаў з хаты.

На рынку сустрэўся са Шчурам.

-- Ты куды? -- запытаўся ў мяне перамытнік.

-- Да Сашкі.

-- Ага, на вячорку! І я туды дыбаю.

Шчур апрануўся, як сам пан граф. Шэры касьцюм, лакераваныя чаравікі, зялёны гальштук. На галаве сьветлы фетравы капялюш з шырокімі палямі.

Не даходзячы да Сашкавай хаты, мы здалёк пачулі гукі гармоніка.

-- Антось рэжа! -- вымавіў Шчур.

Дзьверы ў хату былі адчыненыя, і шырокі струмень сьвятла выпятаў адтуль на падворак. Каля хаты снаваліся нейкія людзі. Чуўся сьмех і шэпты.

Мы ўвайшлі ў пакой. Нас аглушыў гармонік, на якім з натхнёным выразам твару іграў, прыжмурыўшы вочы, Антось.

Тут гаспадарылі гул, рух. Ад тупату ног хісталіся сьцены. Сярэдзіну прасторнага памяшканьня займалі пары танцораў. Антось рэзаў моднага ў той час у нас "Карапэта". Некаторыя падсьвіствалі і напявалі мелодыю танца.

Мы разам са Шчурам сталі каля сьцяны і прыглядаліся да танцораў. Рухам галавы Шчур паказаў на высокага хлопца зь цёмным цыганскім тварам і паказацку расчэсанымі валасамі.

-- Гэта Цьвік... Машыніст,.. -- прамовіў у мой бок сябра.

Цьвік танцаваў з маладой, амаль пятнаццацігадовай дзяўчынкай, якая ледзьве сягала яму да грудзей. Была вельмі зграбная, зь мілым тварыкам. У танцы сьмешна падскоквала вакол перамытніка, які раз-пораз падымаў яе ўгару. Цьвік танцаваў з размахам, выгінаста, з прыскокам і прытупам.

-- Гэта яго каханка, -- праз хвіліну вымавіў Шчур.

-- Ну-у?.. -- выгукнуў я, зьдзіўлены.

Непрыгожых дзяўчат не прыкмеціў увогуле. Каханкамі перамытнікаў былі прыгажэйшыя дзяўчаты мястэчка.

Заўважыў Лорда, які, зацята бліскаючы напамажанай галавой, няд[illegible]а, нібы без жаданьня, танц[illegible] з высокай крамяной дзяўчынай у цёмна-зялёнай сукенцы. Яна была выдатна збудаваная, але твар мела бляклы, як у вупара, амаль мёртвы, што маска. Можа, наклала больш, чым тр[illegible]неадпаведнай колеру скур[illegible]мады.

Убачыў і Ваньку Бальшавіка, які з пакутлівым усьмехам прыціскаў да сябе мясістую дзяўчыну з моцнымі ружовымі агаленымі плячыма. Так абхапіў яе ў танцы, што яна вымушана была адкінуць галаву ўзад.

Заўважыў дзвюх дзяўчат, якія танцавалі разам. Былі непрыгожыя. Трымаліся з выклікам. Адна высьвістывала мелодыю танца, другая прытупвала нагамі і трэсла коратка астрыжанымі валасамі.

-- А гэта што за кралі?

-- Андзя Салдат і Гэлька Пудзель... Яны перамытніцы...

Я лепей прыглядзеўся да дзяўчат. Андзя Салдат была з шырокімі плячыма і вузкімі клубамі. Выглядала як мужчына, пераапрануты ў кабету. На сабе мела вельмі кароткую сукенку апельсінавага колеру. На яе пальцах прыкмеціў шмат пярсьцёнкаў, а на руках бранзалеты. Калі Андзя была высокай і шчуплай, то Гэлька Пудзель -- нізкай і моцнай. Мела вясёлы сімпатычны твар з задзёрыстым угару носікам. На ёй была блакітная сукенка, на шыю завязала чорную стужку. Гледзячы на такую сьмешную пару, я ад душы пацяшаўся.

Акрамя гэтага, танцавала вельмі шмат хлопцаў і дзяўчат, большасьць зь якіх я асабіста ня ведаў.

Хлопцы з паненкамі стаялі каля сьцен, сядзелі на лаўках. Дзяўчаты былі ярка прыбраныя. Тыя ж, хто з прыгожымі нагамі, насілі вельмі кароткія сукенкі. Хлопцы мелі пераважна цёмнасінія, карычневыя, зялёныя і сьветлыя гарнітуры. Камізэлькі ж і гальштукі, якія выглядалі з-пад расшпіленых фрэнчаў, былі самых фантастычных колераў і ўзораў.

Вачыма я шукаў Фэлю, аднак не знайшоў. Антон перастаў іграць. Танцы спыніліся. Хата напоўнілася галасамі, гаманой. Дзяўчаты пачалі зьбірацца на адным баку. Хлопцы стаялі каля сьцен або па некалькі адразу пахаджвалі па хаце. Трымаліся ненатуральна. Былі занадта надзьмутыя, выпрастаныя. Такімі іх прымушала быць "перамытніцкая слава".

Паненкі перашэптваліся, хіхікалі і зыркалі на хлопцаў. А тыя рабілі выгляд, што занятыя важнымі размовамі пра "інтарэсы" і, увогуле, не зьвяртаюць на іх увагу. Такое захаваньне было адзнакай добрага тону.

Шчур тузануў мяне за руку. Я зірнуў на дзьверы. У хату ступіў Альфрэд Алінчук, адзеты з шыкам і бляскам, напамажаны, паголены і нібы адпаліраваны. За ім сунуліся Альбін, Адольф, Альфонс і Амброжык. Затрымаліся цеснай шчыльнай групай непадалёку ад увахода. Размовы патроху прыціхлі. Хлопцы кідалі свае позіркі на Алінчукоў, і толькі "мамзэлі" (як кахаў Лорд) пачалі яшчэ жвавей шаптацца, хіхікаць і яшчэ выразней заляцацца ўсьмешкамі, "запускаць жураўля" ў бок Алінчукоў.

У гэты момант я ўбачыў Болека Камету... Ён выйшаў на сярэдзіну хаты, прыгладзіў вусы, паважна агледзеў усіх і раптам, без усялякіх да гэтага падстаў, весела зарагатаў. Гэтага было дастаткова, каб дзяўчаты пачалі сьмяяцца. Хлопцы таксама ўзарваліся сьмехам, зрэшты, не ўсе, некаторыя, каб утрымацца, "захаваць павагу", кусалі нават шчокі.

Болек Камета спыніў свой погляд на Антосю, які, абапёршыся падбародкам на інструмент, сядзеў у куце хаты.

-- А... пан маэстра! Наша ўшанаваньне!.. Прашу ўрывак "на сопках Маньчжурыі"!.. Эйн, цвэй, дрэй!..

Камета кінуў гарманісту залатую манету. А калі Антось павольна зайграў стары расейскі вальс, ён, ухапіўшы пад пахі першую ад краю дзяўчыну, пачаў кружыцца па хаце. Гэта была Гэлька Пудзель. Дзяўчына пачырванела. Камічна дрыгала нагамі ў паветры і адпіхвала ад сябе Камету. Па хаце праляцеў гучны выбух сьмеху. Болек адпусціў Гэльку, якая скокнула да дзяўчат і адтуль паказала яму язык.

-- Па-французску не ўмею, -- сур'ёзна адказаў Камета, і хата зноў напоўнілася сьмехам.

Камета пакрочыў да дзьвярэй, якія вялі ў суседні пакой. Хутка пара за парай на сярэдзіну пачалі выходзіць танцоры. Перапыненая забава працягвалася далей. Я і Шчур адшукалі месца на лаўцы. Справа ад мяне стаяла, як звычайна скрыўленая, нібы незадаволеная, Маня Дзюньдзя. Некалі разам з Трафідам бачыў яе на рынку. Цяпер прыткнулася ля моцнай дзяўчыны з зачэпістым поглядам чорных смелых вачэй.

-- Хто гэта? -- запытаўся я ў Шчура.

-- Тая, у жоўтым, гэта Маня Дзюньдзя... перамытніца...

-- Ведаю яе... А тая ў ружовым?

-- Бэлка... Таксама перамытніца. Яна ў іх машыніст... баба гетман!

Бэлка, відавочна, пачула, што размова ідзе пра яе, і паглядзела ў наш бок. Шчур кіўнуў ёй галавой. Адказала лёгкім рухам далоні, якую падняла ўгару. Пасьля выпрасталася і, выпіраючы наперад моцна развітыя грудзі, якія трэсліся пры кожным яе руху і да шаленства цьвялілі хлопцаў, пачала прыглядацца да танцораў.

-- О... І Сашка ёсьць! -- вымавіў Шчур.

Я ўбачыў Сашку, што выходзіў зь дзьвярэй, за якімі нядаўна зьнік Баляслаў Камета. Ён павольна крочыў, паціскаючы працягнутыя да яго рукі. Наблізіўся да нас.

-- А ты чаму не танцуеш? -- шапнуў мне.

-- Маю час...

-- А з кім будзе танцаваць... З табой? -- прамовіў Шчур.

-- Як гэта з кім? -- Сашка паказаў рукой на залу. -- Дзяўчаты нібы кветкі!.. О, панна Бэлка сумуе... запрасі яе на танец!

Я пакінуў Шчура і пачаў танцаваць з Бэлкай.

-- Пан не тутэйшы? -- запытала мяне дзяўчына.

-- Так. Прыехаў да Юзіка Трафіды.

-- Ён сядзіць?

-- Сядзіць.

-- Шкада яго.

**Працяг.**

**Пачатак у № 29--34.**

*ДА 85-годдзя ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ*

# "ЯК ЖЫЦЬ — ДЫК ЖЫЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ..."

На пачатку жніўня споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння славутай паэткі, пясняркі чалавечых душ, пачуццяў, нацыянальнага Адраджэння і незалежнасці Беларусі -- Ларысы Антонаўны Геніюш.

Сёння суразмоўца нашага карэспандэнта -- настаўнік Дзярэчынскай СШ, нязменны кіраўнік літаб'яднання пры зэльвенскай райгазеце "Праца" спадар Пётр Мікалаевіч Марціноўскі.

-- Пётр Мікалаевіч, пры якіх абставінах адбылося ваша знаёмства з Ларысай Геніюш?..

-- Маё першае знаёмства з Ларысай Антонаўнай адбылося напрыканцы 50-х гадоў, хутка пасля таго, як яна была рэабілітавана і ў 1956 годзе пераехала ў Зэльву, дзе захаваўся дом мужа. Да сустрэчы я нічога аб ёй не ведаў.

Ларыса Антонаўна займалася кветаводствам, бо вельмі любіла кветкі. Неяк восенню (год не памятаю) я прыйшоў са школы дамоў і ўбачыў, што на падворку стаяў незнаёмы хударлявы мужчына ў шэрым плашчы і капелюшы, а ў кветніку мая жонка Ірына Рыгораўна ажыўлена размаўляла з незнаёмай мне жанчынай, апранутай у цёмнае асенняе паліто, а на галаве завязана простая хусцінка з чырвонымі кветкамі. Я павітаўся з мужчынай, пачаў з ім гутарыць. Занятыя клопатамі аб кветках, жанчыны на нас не звярталі ніякай увагі. Прычыну іх прыезду даведаўся з размовы -- у нас быў самы прыгожы кветнік у Дзярэчыне. Ён і прывабіў Ларысу Геніюш. Знарок прыехалі, каб пазнаёміцца з яго гаспадарамі.

Праз некаторы час жанчыны, усміхаючыся, выйшлі з кветніка на падворак і жонка запрасіла ў хату на пачастунак. У хаце ж размова таксама была аб кветках, аб беларускіх паясах, якія ткала мая цешча.

Ларыса Антонаўна запытала ў мяне, які прадмет я выкладаю. Даведаўшыся, што я выкладчык беларускай мовы і літаратуры, і выдатна на ёй размаўляю, не абышла мяне сваёй увагай. Пра сябе яна нічога не расказвала. Для мяне яна доўгі час была загадкай: хто яна, адкуль прыехала ў Зэльву, чаму такая ўвага да беларускасці і праблем у літаратуры. Аб



усім гэтым я даведаўся пазней, пры наступных сустрэчах.

-- Якая рыса яе характару найбольш імпануе вам?

-- Гэта была простая, шчырая і добразычлівая беларусачка. Пасля некалькіх сустрэч я адчуў, што яна адносіцца да мяне, як да роднага сына, ласкава называючы мяне "Пётрачка". Яна ніколі не крывіла душой, не прыстасоўвалася да рэжыму, заўжды гаварыла праўду, якой бы жорсткай яна ні была. Многага на той час я не разумеў, аб чым яна гаварыла. І яшчэ адна рыса, якая падкупляла, -- даверлівасць [illegible] а ў простых людзей, яе адкрытасць.

-- Але гэта былі часы, калі дэмакратычна настроеныя людзі і іншадумцы, што стаялі за адраджэнне Бацькаўшчыны, падвяргаліся праследу?..

-- Да Ларысы Антонаўны ставіўся з вялікай павагай. Высока цаніў яе пранікнёныя тонкай жыццёвай філасофіяй творы, знаёміў з імі сваіх вучняў, настаўнікаў. Калі бываў у Зэльве па службовых справах, то абавязкова амаль кожны раз сустракаўся з ёю на яе кватэры. Калі да Геніюшаў не заходзіў і аб гэтым даведвалася Ларыса Антонаўна, то падчас наступнай сустрэчы рабіла сяброўскую вымову.

Я не баяўся сустракацца з ёю, хаця яна шмат разоў папярэджвала, баючыся, каб я не трапіў у чорны спіс яе наведвальнікаў.

-- Чаму?

-- Бо адчувалася патрэба ў гэткай душэўнай размове, дыскусіях на тэмы адраджэння мовы, вакол праблем беларускасці... Не ведаю, ці было маё прозвішча ў гэтым спісе, але мяне ніхто нікуды не выклікаў, не праследаваў. Працуючы прапагандыстам у мясцовым калгасе, я гаварыў аб росквіце роднай Беларусі ў сузор'і брацкіх рэспублік. Цвёрда верыў у "непарушны саюз", у "розум, гонар і сумленне эпохі". Уся праўда адкрылася пазней. Ларыса Антонаўна ніколі не была і не магла быць ворагам ніякай дзяржавы. Яна проста апантана, самаахвярна любіла свой народ, мову, Беларусь, яе гісторыю і культуру. І гэта любоў заўжды была ў яе сэрцы.

Кожны раз пры сустрэчы Ларыса Антонаўна чытала мне ўголас свае новыя вершы. Чытала з вялікім натхненнем, узнёсла, горда, з прыўзнятай галавой. Словы гучалі спакойна, мілагучна, адчувалася, што яны ідуць ад сэрца. Падчас вершы чытала па некалькі разоў запар. Гэта былі вершы "Родная мова", "Гудзевічы", "Зубры", "Пятру Клімуку", "Зэльва", "Моладзі". Пасля абавязкова пыталася, як я іх разумею. Некаторыя чатырохрадкоўі як быццам сама сабе чытала, па некалькі разоў, рыхтуючы гарбату.

-- Наколькі мне вядома [illegible] вялікую частку свайго сямейнага ар[illegible]ва яна перадала вам. Што гэта за творы? Ці ўсе яны надрукаваны?

-- Неяк пры адной з сустрэч Ларыса Антонаўна сказала, што хоча перадаць мне грампласцінкі, некаторыя творы і матэрыялы. Было гэта восенню 1982 года, але хутка яна захварэла. Было не да гэтага. Яна верыла, што прыедзе з бальніцы здаровай. Усё атрымалася, як вядома, наадварот -- яна памерла. Захаваліся ў мяне некалькі рукапісаў яе вершаў "Зубры", "Пятру Клімуку". Яны надрукаваны ў зборніку "Белы сон". Ёсць яшчэ не закончаная ёю паэма аб знаходжанні ў сталінскім ГУЛАГу (урывак з яе друкуецца ніжэй). На жаль, сабрана не ўся яе творчая спадчына. Большасць яе твораў выдадзена за мяжой. Таму шырокаму колу чытачоў яны невядомыя. Зборнікі яе выдаваліся ў розныя часы ў Нью-Йорку, Таронта, Лондане. ... Мноства яе рукапісных лісточкаў асела на руках шматлікіх прыхільнікаў яе таленту. Амаль зусім невядомыя яе апавяданні і немалая эпісталярная спадчына...

-- З 1977 года вы кіраўнік літаб'яднання пры райгазеце "Праца". На літстаронках "Зоры над Зальвянкай" як часта друкаваліся творы Ларысы Геніюш?

-- Пры яе жыцці творы друкаваліся даволі рэдка. Перш з усё гэта былі вершы для дзяцей, вершы, прысвечаныя Новаму году, 8 Сакавіка, беларускай мове, зэльвенцам... Такі быў час. Нават калі яна памерла, мясцовыя ўлады не дазволілі надрукаваць у райгазеце спачуванне. Зрабіў гэта толькі адзін "ЛіМ".

У апошнія гады арганізавана праводзяцца Дні памяці Ларысы Геніюш. Адчуваецца вялікая ўвага да яе твораў усёй творчай інтэлігенцыі. Але ўсё гэта прыходзіць са сталіцы. Мясцовымі ўладамі яшчэ амаль нічога не зроблена. Наогул, зацёрта прапанова, выказаная на старонках "Працы" яшчэ ў 1990 годзе, аб перайменаванні вуліцы Савецкай у вуліцу Ларысы Геніюш (ушанаванні і імя славутага земляка -- акадэміка Антона Рамановіча Жэбрака), устанаўленні ля дома па вуліцы Савецкая, 5, яе бюста.

Шкада, што нават пасля смерці паэткі ўлады так і не ацанілі яе справы, не разумелі, каго страцілі.

**Гутарку вёў**
**Пётр ЖЭБРАК.**

# БЕЛЫ СОН СПРАЎДЗІЦЦА

Таленавітая паэзія нярэдка люструе Слова, звернутае чалавекам найперш да нябесных угоднікаў. Слова надзеі, падзякі і любові. Такім сімвалам любові і надзеі на светлую будучыню Беларусі ўяўляецца нам паэзія Ларысы Геніюш. Паэзія і жыццё. Жыццё падзвіжніцы-змагаркі за беларускую справу.

"...Маліся й далей за шматпакутны народ наш перад пасадам Усявышняга, каб мы сталіся верным і набожным, выбраным народам Ягоным! Каб ён Духам сваім Святым узмацняў і прасвятляў душы й сэрцы нашых пастыраў і правадыроў..." Гэта -- з малітвы на чужыне да святой апякункі, заступніцы Беларусі перад Госпадам Ефрасінні Полацкай. Той самай малітвы, якая дасюль яднае беларускіх эмігрантаў з роднай зямлёй. І, вядома ж, колькі разоў гэтая малітва да найпадобнай злятала з вуснаў Ларысы Геніюш! І ў далёкай Празе, калі скламіся, магчыма, такія радкі верша, прысвечанага Ефрасінні:

**У келлі маленькай, у ціхім Сяльцы,**
**не марыць пра ўзнагароду.**
**Не толькі царкве яе веліч душы --**
**жывому народу і роду.**
**Адчула: народ не ўчора паўстаў.**
**Не заўтра канец нам прысудзяць.**
**З мінуўшчыны слаўных падзеяў і спраў**
**мы ёсць.**
**Мы былі,**
**мы будзем.**

Са святою вераю ў будучыню ("мы будзем!") працавала Ларыса Антонаўна побач з урадаўцамі-эмігрантамі БНР, і менавіта гэтая самаахвярная апостальская праца на карысць вольнасці Беларусі стала прычынай цяжкага гвалтоўнага этапіравання беларускай паэткі з пякельных засценкаў МДБ Мінска на далёкую Поўнач, у сталінскую "Гэгэнну". Так пачыналася беларуская "Споведзь" -- дзённік жанчыны, дзённік Паэтэсы, якую сёння называюць не іначай, як "сумленне нацыі". У сваіх публікацыях я назвала яе таксама "Маці нацыі". Можа, таму, што была добра знаёма з Ларысай Антонаўнай, нават перапісвалася з ёю з пачатку сямідзесятых гадоў, калі амаль што ўсе знаёмыя і блізкія людзі ад апальнай "зяльвянкі" проста адвярнуліся. Дарэчы, і мне Ларыса Антонаўна часта папераджальна раіла перапыніць усялякую сувязь з Зэльвай, усялякае ліставанне. Аднак перапіска наша вялася. Праўда, таемна, праз аднаго знаёмага студэнта. Больш таго, менавіта ў тыя цяжкія для ўсёй Беларусі, для нацыі гады ў Зэльву прыехалі маладыя паэты студэнты-філфакаўцы -- акрамя мяне яшчэ Алесь Разанаў і Віктар Ярац. Мы прыехалі да легендарнай жанчыны, каб падтрымаць і яе, і сябе. Хоць бы таму, што якраз тады універсітэцкая моладзь ускіпела ад абвостранай барацьбы найлепшых за выкладанне ў БДУ на беларускай мове.

Здавалася б, у чым жа тут "дзяржаўны" грэх?! Аднак нашы намаганні, наша барацьба завяршыліся крутымі адміністрацыйнымі мерамі. Алеся Разанава і Віктара Ярца перавялі з Мінска ў Брэст і Гомель. Мяне пазбавілі аспірантуры. Толькі ці можна гэта параўнаць з тымі пакутамі, што выпалі на долю нашай дарагой Ларысы Антонаўны... Адтуль, з-за сталінскіх дратоў, дасталіся да нашага часу словы споведзі: "Божа мой, Ты з дзяцінства ўліў у маю душу літасць, праўду і пачуццё справядлівасці, даў сумленне й розум, як жа я, чалавек, які ведае законы чалавечыя і Божыя, магу згадзіцца з джынгісханамі пасля Масарыка, Абрагама Лінкальна, Талстога, Рабіндраната Тагора? Не, не, я чалавек, гдзе б мяне ні закінулі, і ў гэтым мне памажы, Божа!" Але самае страшнае -- бачыць гэтых "джынгісханаў" - янычараў не толькі недзе за сталінскімі дратамі, але... Але -- у сябе на радзіме. У той жа Зэльве.

Самае агіднае ў чалавеку -- страх! Часам гэта проста маленькі мізэрненькі страх за наладжанае дабрабытнае жыццё, за сытае існаванне. І тады чалавек адмаўляецца ад сябе самога, ад свае Бацькаўшчыны, свае мовы. Паступова гадзенькі страх, які называюць "шкурным", перарастае ў здраду. Менавіта здрада чалавечая стала самым моцным і няўмольным ворагам беларускай Паэтэсы. І калі б яна была жывая, то, пэўна, зноў скаланулася б ад новай здрады. Ужо здрады агульнанацыянальнай. Скаланулася б і... горда падняла галаву, ведаючы, што час для сапраўднай вольнасці Беларусі ўсё роўна настане. Усё часовае -- мінецца. Усё існае вылечыць раны, верне народу зрок і слых, верне ўсім нам веру і надзею.

Ларыса Геніюш -- з тых, каго называюць часта людзьмі **Пакліканымі**. Яна сапраўды Паклікана. Паклікана ўвасабляць талент, мужнасць і веру народа. І веру ў народ. Толькі патрэбны час, цярпенне і агульныя намаганні.

**Адзінай мэты не зракуся,**
**і сэрца мне не задрыжыць:**
**як жыць -- дык жыць для Беларусі.**
**А без яе -- зусім не жыць.**

Мы і сёння з табою, Паэтэса. Ты і цяпер з намі, дарагая Ларыса Антонаўна!

**Валянціна КОЎТУН,**
**прэзідэнт Усебеларускага жаночага фонду Ефрасінні Полацкай.**

**Ларыса ГЕНІЮШ**

## УРЫВАК З НЕЗАКОНЧАНАЙ ПАЭМЫ

**Сярод загадаў чужых нялюдзкіх,**
**Дзе права жыць нам даюць, як ласку,**
**Стукоча сэрца па-беларуску,**
**І сэрцу цяжка.**
**Ад сіл варожых у краі аж грузка,**
**Народ зьняволіць, аднак, не проста.**
**Стукочуць сэрцы па-беларуску**
**За зьдзекі -- помстай!**
**Ля ніў айчынных забраных сёлам,**
**За мову продкаў, што хочуць сьцерці,**
**Па-беларуску нясцерпным болем**
**Крывавяць сэрцы.**
**Насупраць праўды, насупраць брацьцяў,**
**Гэтай варожай ласцы-няласцы**
**На родных землях у бацькавай хаце**
**Сэрца не дасца!**

**Холад мне, холад у камерах цёмных:**
**Праз боль да мэты,**
**Сьлядоў шукаю на сьлізкіх сьценах**
**Другіх паэтаў.**
**Сюды мучэньняў і сьмерці тайны**
**Яны прынесьлі,**
**Ад іх цярпеньняў, ад іх адчаю**
**У камерах цесна...**
**Малая птушка дзюбкай аб шыбу**
**Рве скамянеласьць,**
**То прывітаньні нясе ад сына**
**Майго нясмела.**
**Страшныя рукі, чорныя рукі,**
**Ліпкія пальцы,**
**Не аплятайце ў сьмяротных муках**
**Шыі дзіцяці!**
**Цела людзкое цяжка з табою**
**Як не звучыць!**
**Цела не ўмее прэснай бурдою**
**Гадамі жыць...**
**У вісках ад болі,**
**У вачах ад сонца**
**Туманны вір,**
**Цела людзкое, як я шкадую,**
**Што не факір...**
**Не спяць начамі да сонца ўсходу**
**Усе кажаны,**
**Мяне начамі спіральлю сходаў**
**Вядуць яны.**
**Допыты, допыты -- хітрасьць і грозьбы,**
**Стукне кулак,**
**Толькі ва ўпарты лоб мой бясстрашны**
**Не б'юць, аднак.**
**Дзікія вочы злосьцю шалеюць,**
**Словы, як бруд:**
**"Ві пакідайце свае надзеі**
**Усе, хто тут!"**
**У руках шалёных жыцьцё і доля**
**Кожнага з нас,**
**О, лёс народу ў паднявольлі,**
**О, страшны час!**
**Усе чужыя, усе не нашы,**
**Няма сваіх.**
**Змітрок Бядуля, табе не страшна,**
**Не ўстыд за іх!**
**Страшны Цанава, як Берыя крывавы,**
**Я перад ім.**
**Ногі бы з ваты, сілаў, здаецца,**
**Няма зусім...**
**Няма і страху перад тыранам,**
**Няма і сьлёз,**
**Стаю вярбою, а ужэ жывот мой**
**К хрыбту прырос.**

**"На якой мове з табой гаварыць,**
**Знаеш расейскую,**
**Можа, выклікаць перакладчыка,**
**Можа, па-чэску?"**
**"Вы жа міністар на Беларусі,**
**Дык гаварэце, як тут належыць,**
**Па-беларуску!"**
**"Не, па-расейску ты загаворыш", --**
**Грыміць Цанава,**
**Мовы ён нашай знаці -- не знае,**
**Ад злосьці шэры**
**Біч, для народу, скула ліхая**
**П'яўкай на сэрцы!**
**Бесіцца люты і мне жадае...**
**Суддзі не суддзі,**
**Быццам не людзі,**
**Скалы сядзяць:**
**"За беларускасьць няхай вам будзе:**
**Лет 25!"**
**Так паўстагоддзя разам абоім**
**Годзе...**

**Падымі свае вочы, паглянь,**
**Стаў ля нас цень пакутаў і сьмерці,**
**У сонцапёк, ля зялёных палян,**
**Нам ужо болей з табой**
**Не сустрэцца...**

**Ноч у Менску, на сьнегу агні,**
**Прабіваюцца ў вогкія вочы,**
**Канваіры з штыкамі і мы,**
**Толькі цень, сына цень**
**Побач крочыць...**
**Рукі выцягнеш -- пуста, аднак,**
**Скажаш слова -- яно без адказу,**
**А маленькі, нябачны юнак**
**Крочыць ножкамі, быццам разам...**

*З асабістага архіва П.М.Марціноўскага.*

*СТАРОНКІ З "ВІЦЕБСКАГА АЛЬБОМА"*

# ПРАГУЛКА ПА САБОРНАЙ ВУЛІЦЫ

Вуліца камісара Крылова -- адна са старажытнейшых у Віцебску -- існуючую назву атрымала толькі 20 гадоў назад. Спрадвеку напрыканцы вуліцы на стромым адхоне гары ў месцы зліцця Віцьбы з Дзвіною стаяла царква ў гонар Успення Прасвятой Багародзіцы. Адпаведна вуліца, што вяла да храма, у XVI стагоддзі мела назву Багародзіцкай, у больш познія часы -- Саборнай ці Успенскай.

Дом на рагу вуліц Саборнай і Афіцэрскай (сучасныя Крылова і Суворава) -- адзін з найбольш старадаўніх у Віцебску. Рэльефны надпіс на яго франтоне змяшчае дзве даты: 1799 і 1893 гады. Першая дата вызначае час узвядзення будынка і прыпадае на перыяд росквіту класіцызму, другая сведчыць пра яго капітальную перабудову. Узведзены па так званым "узорным" праекце дом пачынаў Саборную вуліцу і рыхтаваў гледача да ўспрымання яе перспектывы.





На жаль, сёння не вядома імя першага ўладара будынка. Магчыма, ім быў памешчык Сцяпан Сляпец, які ў 1852 годзе прадаў свой "мураваны дом з брукаваным дваром і агародам" віцебскаму правізару, немцу па паходжанні, Карлу Вейгер фон Рэйдэмейстэру. Патрыярхальны быт гараджаніна сярэдзіны мінулага стагоддзя сёння здольны выклікаць нашу лёгкую ўсмешку і нават замілаванне: жывучы ў самым цэнтры горада, віцяблянін дазваляў сабе ўтрымліваць пры ўласнай гаспадарцы яшчэ і агарод.

Пасля смерці бацькі правы спадчынніка перайшлі да Адольфа Карлавіча фон Рэйдэмейстэра, які таксама атрымаў медыцынскую адукацыю, меў ступень магістра фармацыі і аптэку на Задунаўскай вуліцы. Аднак яго фінансавыя справы ішлі не вельмі ўдала. У 1891 годзе праўленнем Зямельнага банка дом Рэйдэмейстэра быў прызначаны для продажу з таргоў за даўгі.

Наступным уладаром будынка стаў Фелікс Цеханавецкі, прадстаўнік славутага шляхецкага роду, вядомага на Віцебшчыне з XVI стагоддзя. Высокакультурны і адукаваны чалавек, ён у значнай ступені прычыніўся да вырашэння праблем добраўпарадкавання горада. Разам яшчэ з дзвюма асобамі ў 1892 годзе Фелікс Цеханавецкі ўзяў на сябе абавязак "пабудаваць у губернскім горадзе Віцебску на свой кошт і рызыку водаправод з усімі да яго належнымі збудаваннямі для забеспячэння г. Віцебска з ракі Дзвін[...]адою". Гарадскія ўлады вы[...]лі водаправод у канцэсіянераў і зрабілі яго ўласнасцю горада толькі пасля таго, як уся "рызыкоўнасць прадпрыемства" была пераадолена і першыя лініі гарадскога водаправода пачалі паспяхова функцыяніраваць.

Побач са сваім домам на рагу Саборнай і Афіцэрскай вуліц Ф. Цеханавецкі пабудаваў новы трохпавярховы дом, большую частку памяшканняў якога занялa кантора водаправода. Асаблівае харaство будынку надалі металічныя рашоткі і кансолі балконаў. Балконныя рашоткі ўпрыгожваў складаны малюнак арнаментальнай раслiннай вязі з выкарыстаннем матыву стылізаваных валошкі. Пасля капітальнага рамонту і перабудовы ў 1893 годзе стары дом быў злучаны пераходам з новым. У васьмі пакоях другога паверха новага дома жыла сям'я Цеханавецкіх, другі паверх старога дома здаваўся для кватарантаў.

У 1914 годзе сыны Фелікса Ігнаці і Вітольд Цеханавецкія прадалі абодва свае дамы на Саборнай вуліцы жонцы вядомага віцебскага ўрача Рывоша, якому ў часы 2-й сусветнай вайны акупацыйныя ўлады горада нават дазволілі мець прыватную практыку.

Зараз абодва будынкі выкарыстоўваюцца пераважна для жылых мэтаў.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: дом на рагу вуліц Крылова і Суворава ў Віцебску; дом, пабудаваны Феліксам Цеханавецкім.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ...ВЕКАВЕЧНЫ ТОЛЬКІ КРАЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

-- Вось думаю, што па вялікаму рахунку не тое рабіў, -- працягвае Аляксандр Васільевіч. -- Пабалей патрэбна сведчанняў. Жывых сведчанняў. Праўдзівых... Вайна ж была ўсялякай. І шмат ярчэйшай, чым пра яе расказвалі на піянерскіх зборах...

Адчуваю, якія цяжкія зараз у Пікуліка развагі. І гатовы перажываць разам з ім.

І еду далей. Да вядомага Крука. Сягаю на старэнькім "Масквічу" праз Свіслач. Вось ужо і Зазер'е. І лецішча Аркадзя Сцяпанавіча. Акуратны агародзік, дзе грады мяжуюць з кветкамі. Угледзеўшы госця, гаспадары запрашаюць у хату. Чысціня і парадак, бы ў гарадской кватэры. Ізноў -- зямляцкая размова. Колькі ведаю Крука, а сёння вось толькі дазнаюся, што яму, вучонаму з нямногіх, у музеі Пярэжырскай сярэдняй школы прысвечаны асобны куточак. Гэта, відаць, у адказ на тое, што даўно ўжо турбую Аркадзя Сцяпанавіча, каб нешта перадаў у Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей -- і манаграфіі, і здымкі. Ды Крук заўжды пераводзіць на іншае. Расказвае, што з яго мясцін самых блізкіх, з вучняў Пярэжырскай школы выйшла аж тры прафесары-медыкі. Расказвае Аркадзь Сцяпанавіч пра іншых знакамітых землякоў. Згадваем і Міколу Лобана, які ў перадваенныя гады выкладаў у Пярэжырскай школе беларускую мову і літаратуру.

З захапленнем пазіраю на Аркадзя Сцяпанавіча. Дзіўлюся яго апантанасці. Дзіўлюся пачуццю зямляцкасці. Гэта ж ён -- Крук -- выступіў з ідэяй праводзіць штогод сустрэчу землякоў-медыкаў. Сёлета ўжо пяты раз мяркуюць сабрацца разам сем'і Крука, Чахоўскага, Сенчука. Кажуць, што падзіць будуць стрэчу ў старажытнай Дукоры. На лецішчы Уладзіміра Сцяпанавіча Сенчука.

За Зазер'ем, праз чыгуначны пераезд, -- дарога на Навaполле. Там, у мясцовым Доме культуры, дырэктарам працуе Іван Іванавіч Сакольчык. З 15 красавіка 1957 года працуе ён у культуры. Быў дырэктарам Дудзінскага сельскага Дома культуры. Цяпер вось -- у Навапольскім. І ўсюды арганізоўвае калектывы самадзейныя -- фальклорныя, танцавальныя, драматычныя. Усюды гуртуе, паяднoўвае людзей. Цягне літаральна за рукаў у Дом культуры. Мала для Івана Сакольчыка дыскатэк, не па характару навапольскаму міністру культуры маўкліва пазіраць на п'яную моладзь. Іван і Купалле як след наладзіць, і клуб старых людзей (назву ж якую прыдумалі -- "Верасень") арганізуе, і шмат што яшчэ зробіць, каб толькі не журыліся землякі, каб толькі сыходзіліся разам. Такі ён ужо Іван Сакольчык -- апякун чысціні і сумленнасці.

... Падыходзіць надвячорак. І наш "Масквіч" скіроўвае на Пухавічы (так старыя людзі называюць блізкае мне мястэчка Пухавічы), а далей -- і ў родную Зацітаву Слабаду. Я еду дахаты. Еду і думаю ўсё пра землякоў. Яны -- носьбіты выратавальнай для нацыі энергетычнасці. Больш бы такіх землякоў. Тады мо і была б у нас будучыня...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*СПОРТ*

## МАШЫНА, КВАТЭРА І... ЗОЛАТА

У канцы года, як вядома, у кожнай краіне вызначаюцца лепшыя спартсмены. А сярод іх -- лепшы з лепшых. Да таго тэрміну яшчэ далёка, але можна ўжо цяпер зрабіць амаль беспамылковы прагноз: галоўным кандыдатам на перамогу ў гэтым конкурсе з'яўляецца лёгкаатлетка Наталля Шыкаленка.

Сёлетні сезон быў для яе вельмі ўдалым. Яна стала чэмпіёнкай свету ў кіданні кап'я і чатыры разы (!) выйграла турніры "Гран-пры".

Шчаслівая беларуска атрымала не толькі залатыя медалі, прызы, але і машыну, кватэру, пяць кілаграмаў золата.

## АФІЦЫЙНАЕ ПАЦВЯРДЖЭННЕ

Міжнародны алімпійскі камітэт праслаў афіцыйнае запрашэнне Рэспубліцы Беларусь прыняць удзел у XXVI летніх Алімпійскіх гульнях, якія пройдуць у Атланце (ЗША) і будуць прысвечаны 100-годдзю з дня іх сучаснага адраджэння.

Выканаўчы НАК Беларусі прыняў афіцыйнае рашэнне паслаць на Гульні нацыянальную каманду. У склад яе плануецца ўключыць звыш ста спартсменаў.

## ЦЯЖКА ЗРАЗУМЕЦЬ,

чаму на XVIII Сусветных студэнцкія гульні ў Японію адправілася каманда Беларусі, у складзе якой было ўсяго... 16 спартсменаў. Устрымаемся ад каментарыяў, не будзем шукаць вінаватых. Адно радуе: каманда заняла і ў гэтым саставе высокае дванаццатае месца, заваявала восем узнагарод. З іх два залатыя медалі. Асабліва вызначыліся гімнасты Віталь Шчэрба і Вольга Юркіна.

## ГЕНЕРАЛЬНАЯ РЭПЕТЫЦЫЯ

Галандыя прымала ўдзельніц фіналу Гран-пры па мастацкай гімнастыцы. Удзельнічалі ўсе наймацнейшыя спартсменкі планеты. Гэтыя спаборніцтвы разглядаліся як генеральная рэпетыцыя перад першынством свету, што пройдзе з 19 па 24 верасня ў Вене.

Пасля спаборніцтваў у Галандыі па суме этапаў беларускія гімнасткі Вольга Гонтар і Ларыса Лук'яненка знаходзяцца на другім і трэцім месцах. Яны ўступаюць толькі ўкраінцы Кацярыне Серабранскай.

Там жа праходзілі і камандныя спаборніцтвы. "Бронза" ў шматбор'і -- нядрэнны вынік для зборнай Беларусі.

# ГАНАРОВЫЯ ЗВАННІ — СПАРТСМЕНАМ

Кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка высока ацаніў заслугі ў развіцці нацыянальных фізкультуры і спорту, а таксама паспяховае выступленне на чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы вялікай групы трэнераў і спартсменаў.

Яго ўказам ад 28 жніўня трэнеру Рэспубліканскай школы вышэйшага спартыўнага майстэрства па лёгкай атлетыцы Мечыславу Аўсяніку прысвоена ганаровае званне "Заслужаны работнік фізічнай культуры і спорту Рэспублікі Беларусь".

Звання "Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь" удастоены старшыя трэнеры нацыянальнай зборнай каманды Рэспублікі Беларусь па лёгкай атлетыцы Валерый Няфёдаў, Мікалай Парахоўскі, Юрый Тарасюк.

Сямі спартсменам прысвоена званне "Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь". Высокага гонару насіць яго ўдастоіліся чэмпіёны і прызёры V чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы: сярэбраны прызёр свету па кіданню молата Ігар Астапковіч, сярэбраны прызёр па кіданню дыска Уладзімір Дуброўшчык, чэмпіёнка свету па кіданню дыска Эліна Зверава, бронзавы прызёр па кіданню дыска Васіль Капцюх, бронзавы прызёр па спартыўнай хадзьбе Яўген Місюля, сярэбраны прызёр па дзесяцібор"ю Эдуард Хямеляйнен, чэмпіёнка свету па кіданню кап"я Наталля Шыкаленка.


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").





НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 3696. Падпісана да друку 11. 9.1995 г.